# Голас Радзімы

№ 51 (2089)
22 снежня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Зіма прыйшла на Беларусь. Уладарыць яна і ў Купалавай Вязынцы. Сцішыліся прысады вакол Дома-музея, зацягнута лёдам гладзь сажалкі, пад лёгкімі масткамі спынілася і без таго няспешная плынь. Уся сядзіба і яе наваколле нібы ў задуменні. Аб чым? Можа, аб убачаным за доўгі і шумны летні турыстычны сезон! Шмат людзей пабывала ў Вязынцы — і прыезджых з далёкіх краёў, і сваіх, беларускіх: тут месца асобае, запаветнае.

Фота С. БАРУШКІ.

ВЕЧАРЫ

## ПРЫСВЕЧАНЫ ЮБІЛЕЮ

У пастаянным прадстаўніцтве Беларускай ССР пры міжнародных арганізацыях у Вене адбыўся вечар, прысвечаны маючаму адбыцца 70-годдзю ўтварэння БССР і Камуністычнай партыі Беларусі. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі сацыялістычных краін.

Выступаючы на вечары, пастаянны прадстаўнік БССР В. Баравікоў расказаў аб гістарычным мінулым Беларусі, сённяшніх буднях рэспублікі, яе дасягненнях у галіне эканомікі і культуры, спыніўся на працэсе перабудовы, які адбываецца ў краіне.

Удзельнікам сустрэчы, якая прайшла ў цёплай, дружалюбнай атмасферы, быў прадэманстраваны дакументальны фільм аб Беларускай ССР.

МІЖНАРОДНЫЯ СУСТРЭЧЫ

## ЗАВЕРШАНЫ ВІЗІТ У ШВЕЦЫЮ

У Стакгольме адбылася сустрэча міністра замежных спраў Швецыі Стэна Андэрсана з савецкай парламенцкай дэлегацыяй на чале са Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Г. Таразевічам. Міністр перадаў спачуванні караля, урада і народа Швецыі кіраўніцтву і народу Савецкага Саюза ў сувязі з цяжкімі вынікамі землетрасення ў Арменіі.

Кіраўнік шведскай дыпламатыі даў высокую ацэнку мірным ініцыятывам, абвешчаным М. С. Гарбачовым у ААН. Буйное аднабаковае скарачэнне Узброеных Сіл, якое намячае Савецкі Саюз, адзначыў ён, сведчыць аб важным прагрэсе ў справе разбраення. Рэалізацыя гэтых мер пазітыўна адаб'ецца на ўсім міжнародным становішчы.

ДЭЛЕГАЦЫІ

## ГОСЦІ РЭСПУБЛІКІ

Удзельніцы міжнароднай сустрэчы-дыялога «Новае палітычнае мысленне і жаночы рух», якія прыбылі ў Мінск з культурна-азнаямленчай мэтай, нанеслі візіт намесніку Старшыні Савета Міністраў БССР Ніне Мазай. Актывісткі Міжнароднага жаночага руху пабывалі ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце аховы мацярынства і дзяцінства, азнаёміліся з работай жанчын-ветаў, наведалі шэраг сацыяльна-бытавых і прамысловых аб'ектаў.

***

У Мінску знаходзілася дэлегацыя юрыстаў Шры Ланкі на чале з віцэ-прэзідэнтам Лігі ланка-савецкай дружбы В. В. Куларатке. Члены дэлегацыі сустрэліся з пракурорам БССР Г. Тарнаўскім, прадстаўнікамі рэспубліканскай адвакатуры і актывістамі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Ланкійскія госці азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі горада, агледзелі экспазіцыю Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, зрабілі паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь», дзе ўсклалі кветкі.

НАВУКОВА-ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС



Высокай ступенню аўтаматызацыі адрозніваецца агрэгатаў, што выпускаліся раней, новы вертыкальна-фрэзерны, свідравальна-расточны модуль, выпуск якога асвойваецца цяпер у Гомельскім вытворчым станкабудаўнічым аб'яднанні імя Кірава. У канцы гэтага года гамяльчане разлічваюць прадэманстраваць навінку ў ЗША, а ў наступным—пачаць першыя дзесяць модуляў па заказах спажыўцоў.

НА ЗДЫМКУ: звяно Леаніда КАРПАВА занята на зборцы гарызантальна-фрэзерных станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем.

САДРУЖНАСЦЬ

## НА БЕЗВАЛЮТНАЙ АСНОВЕ

Арыгінальны будынак, сцены і дах якога ззяюць сярэбраным адлівам, менш чым за два месяцы з'явіўся ў саўгасе-камбінаце «Мір» Баранавіцкага раёна. Такі незвычайны аб'ект з металаканструкцый узвялі спецыялісты з Чэхаславакіі, з якімі працаўнікі гаспадаркі падтрымліваюць цесныя сувязі каля дзесяці гадоў. А прызначаецца гэта памяшканне для захоўвання сена. Усе працэсы ад закладкі да выгрузкі кармоў, падтрымка неабходнага тэмпературнага рэжыму тут поўнасцю механізаваны.

Такое сховішча жывёлаводы гаспадаркі атрымалі не бясплатна. У сваю чаргу, яны дапамаглі сваім партнёрам з брацкай краіны набыць элітнае насенне збожжавых, мінеральныя ўгнаенні, металарэзнае абсталяванне.

Новы дагавор на пяць гадоў, заключаны паміж саўгасам-камбінатам «Мір» і дзяржгасам «Высоке-над-Іезера», прадугледжвае шэраг узаемавыгадных здзелак на безвалютнай аснове.

ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ



У Мінску завяршыўся агляд-конкурс работ маладых архітэктараў рэспублікі. У Доме тэхнікі было прадстаўлена больш двухсот работ трыццаці пяці аўтараў. Вышэйшую ўзнагароду конкурсу—Гран-пры — атрымаў праект забудовы цэнтра горада Глыбокае Віцебскай вобласці, які распрацавалі архітэктарамі «Мінскграмадзянпраекта» Аляксандрам Пратасевічам і Іосіфам Вайцяховічам. Многія работы беларускіх горадабудаўнікоў рэкамендаваны для ўдзелу ва Усесаюзным аглядзе-конкурсе маладых архітэктараў.

НА ЗДЫМКУ: макет забудовы цэнтра горада Глыбокае, які адзначаны Гран-пры.

ГРОШЫ ДЛЯ ІДЭЙ

## ІДЗЕ НАВАТАР... У БАНК

Непаладны ведамасным амбіцыям толькі што адкрыты ў Мінску новы фінансавы орган — Інавацыйны банк (МІБ). Ён пачынае ўвасабляць у жыццё мары наватараў, матэрыяльна стымуляваць ініцыятыву калектываў вучоных і рабочых вытворчасці, асобных энтузіястаў навукова-тэхнічнага прагрэсу. Асноўныя намаганні МІБ накіруе на распрацоўку і ўкараненне найбольш эфектыўных вынаходстваў і новаўвядзенняў, павышэнне тэхнічнага ўзроўню і канкурэнтаздольнасці савецкай тэхнікі, тавараў народнага спажывання.

Добраахвотныя ўклады ў фонд МІБа ўнеслі дванаццаць заснавальнікаў, у тым ліку Міністэрства лёгкай прамысловасці і народнай адукацыі рэспублікі, Беларускі рэспубліканскі савет ІТВР, Акадэмія навук БССР, аўтамабільны і трактарны заводы, маладзёжнае гасразліковае аб'яднанне «Вектар».

Банк камерцыйнага плана існуе дзякуючы акцыянерам. Хутка пачнецца напаўненне «партфеля заказаў», у якім будуць і каштоўныя новаўвядзенні, якія не знайшлі раней фінансавай падтрымкі з-за бюракратычных затрымак.

ПРАДУКЦЫЯ ЗА МЯЖУ

## ЯКАСЦЬ ГАРАНТУЕЦЦА

Першым замежным партнёрам Гомельскага вытворчага аб'яднання мяса-малочнай прадукцыі стала Аўстрыя. Сюды з Калінкавіцкага мясакамбіната пачалася пастаўка малочнага бялку — казеіну.

У няпростых умовах працуюць харчовыя прадпрыемствы Гомельшчыны. Каб прадухіліць пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС паступленне на стол забруджаных прадуктаў, у аб'яднанні праведзена вялікая работа па пераўзбраенню цэхаў і ўчасткаў.

ЗАХАПЛЕННІ

## ЦЭНТР ТЭХНІЧНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Першы клуб самадзейнай тэхнічнай творчасці з'явіўся ў Ляхавіцкім раёне. Ён адкрыты ў калгасе імя Ламаносава. А ініцыятарам яго стварэння стаў старшыня праўлення гаспадаркі, Герой Сацыялістычнай Працы Генрых Трацяк. У сельскай моладзі ёсць добрае месца для творчага пошуку: побач з машынным дваром пабудавана спецыяльнае памяшканне, дзе пад кіраўніцтвам вопытнага інжынера будуць праводзіцца тэарэтычныя і практычныя заняткі. Тут ка абсталявана і майстэрня, аснашчаная станкамі, інструментам, прыборамі.

Цяпер вечарам і ў выхадныя дні клуб стаў любімым месцам адпачынку моладзі, дзе з цікавасцю можна правесці вольны час. Плануюць тут выпускаць і розныя вырабы, укараніць платныя паслугі, з тым каб цэнтр тэхнічнай творчасці быў самаакупным і прыбытковым.

ПАСЛЯ ЗЕМЛЕТРАСЕННЯ

# ДАПАМОГА АРМЕНІІ

**7 снежня ў Закаўказзі адбылося моцнае землетрасенне. Па сваёй сіле яно не мае сабе роўных у бягучым стагоддзі ва ўсёй Еўропе. Ад стыхіі магутнасцю звыш 10 балаў асабліва пацярпела Армянская ССР. Ленінакан, Спітак, Кіравакан, іншыя гарады і населеныя пункты былі разбураны. Загінуўшых і раненых налічваюцца дзесяткі тысяч. Паўмільёна людзей засталіся без прытулку.**

Трагічныя падзеі ў Арменіі не пакінулі нікога абыякавым як у нашай краіне, так і ў многіх краінах свету, што аказваюць у гэтыя дні пацярпеўшым бескарыслівую дапамогу. У раёны бедства накіроўваюцца медыкаменты, прадукты харчавання, будаўнічыя матэрыялы, тэхніка, адзенне. Едуць урачы, вучоныя-сейсмолагі, выратавальнікі, паступаюць грашовыя пераводы.

Не засталіся ўбаку і працоўныя нашай рэспублікі. Яны ў ліку першых адгукнуліся на бяду брацкага народа. Як расказаў журналістам старшыня Белсаўпрофа, старшыня рэспубліканскай камісіі па арганізацыі дапамогі насельніцтву Армянскай ССР У. Ганчарык, сапраўды ўсё насельніцтва Беларусі аказвае неадкладную дапамогу Арменіі. Працоўныя калектывы, прафсаюзныя арганізацыі вырашылі правесці суботнікі, адпрацаваць дадатковыя змены, а заробленыя сродкі аддаць у фонд дапамогі пацярпеўшым ад землетрасення. 300 тысяч рублёў пералічыла на рахунак 700412 выбарчае аб'яднанне «Гарызонт», наступным укладам стане сума 100 тысяч рублёў — аднадзённы заработак рабочых і служачых.

Калектыў Мінскага тонкасуконнага аб'яднання вырашыў перадаць армянскаму народу 24 тысячы рублёў — прэмію, атрыманую за перамогу ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве. Грашовую і матэрыяльную дапамогу аказалі Мінскі завод халадзільнікаў, многія іншыя прадпрыемствы рэспублікі. Значныя сумы пералічаны Саюзам архітэктараў БССР, Таварыствам Чырвонага Крыжа, прыватнымі асобамі.

За кошт атрыманай у рэспубліцы звышпланавай прадукцыі ў Арменію адпраўлены прадукты харчавання, прадметы першай неабходнасці, медыкаменты. Самалёты ваеннай авіяцыі даставілі ў пацярпеўшыя раёны тэхніку: краны, кампрэсары, перасовачныя электрастанцыі, газазварачныя апараты, іншыя машыны і механізмы. 217 пасланцоў Беларусі пачалі ўжо на месцы ліквідацыю вынікаў землетрасення. Загружаны і чакаюць адпраўкі ў Арменію 23 самалёты, а па чыгунцы ў Ерэван прыбыў яшчэ адзін груз з БССР — 126 аўтамабіляў «МАЗ», 15 аўтапагрузчыкаў, спецадзенне, будаўнічыя матэрыялы.

У гэтыя дні многія грамадзяне перадаюць у фонд дапамогі армянскаму народу рэчы, прадукты харчавання, медыкаменты.

Тысячы армянскіх сем'яў атрымаюць часовае жыллё з фондаў іншых рэспублік. Ужо цяпер яны выязджаюць у гарады і вёскі краіны, дзе атрымліваюць добраўпарадкаваныя кватэры, работу па спецыяльнасці, грашовую і матэрыяльную дапамогу.

Асабліва цяжка дзецям-сіротам. Ім прадастаўляюцца лепшыя санаторыі, піянерскія лагеры. Грамадзяне Савецкай краіны выказваюць жаданне ўсынавіць іх або прапануюць прытулак. Аб гэтым, напрыклад, заявіла калегія дырэктар гасцініцы пасёлка Сосны, што пад Мінскам, Н. Пераслаўцава і многія, многія іншыя жыхары Беларусі.

Шмат жадаючых прыняць асабісты ўдзел у ліквідацыі вынікаў землетрасення. У штаб аператыўнай групы Белсаўпрофа звяртаюцца асобныя грамадзяне і арганізацыі. Напрыклад, 25 студэнтаў Мінскага медыцынскага інстытута выказалі жаданне адправіцца на дапамогу. У рэспубліцы пачалася падрыхтоўка да фарміравання будаўніча-мантажнага поезда, які будзе ўзводзіць жыллё і іншыя аб'екты ў Ленінакане.

Зразумела, што не ўсіх жадаючых змогуць прыняць у Арменіі. Ужо сфарміраваным атрадам мы прапануем працаваць у Беларусі, а заробленыя грошы пералічваць у фонд пацярпеўшых ад землетрасення. Наперадзе яшчэ многа работы, і кожны зможа ўнесці свой уклад у агульную для ўсёй краіны справу.



У Віцебску фарміруецца эшалон будаўнічай тэхнікі для Арменіі.

## З ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ АМЕРЫКІ

# НЕ РАССТАЛІСЯ Б МЫ З НАШЫМ КРАЕМ...

**Сёння мы пачынаем друкаваць нататкі з падарожжа па ЗША, якое сёлета зрабілі беларускі вучоны і пісьменнік Леанід Казыра і саліст тэатра оперы і балета БССР Віктар Скарабагатаў. У верасні яны пабывалі ў рэдакцыі «Голасу Радзімы», расказалі аб сваёй паездцы і паабяцалі падзяліцца на старонках газеты ўражаннямі аб сустрэчах з землякамі ў Араў-парку і ў беларускім грамадска-культурным цэнтры «Полацк».**

Усе хваляванні, клопаты, турботы, якія заўсёды суправаджаюць чалавека, калі той збіраецца ў дарогу, засталіся на зямлі...

Мы на борце лайнера амерыканскай авіякампаніі «Пан Амерыкэн» «Боінг-747», які выконвае рэйс Масква—Нью-Йорк. Мы—гэта члены дэлегацыі савецкага Таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой, якое ў скарачэнні называюць проста — «Родина». У складзе дэлегацыі — Уладзімір Мезенцаў — намеснік галоўнага рэдактара газеты «Голос Родины» і часопіса «Отчизна», Надзея Бабкіна — заслужаная артыстка РСФСР, Уладзімір Мальчанка — народны артыст РСФСР, Віктар Скарабагатаў — заслужаны артыст БССР, Канстанцін Кабылінскі— саліст Масканцэрта і аўтар гэтых радкоў.

Я нямала чуў, чытаў пра нашых землякоў, якія па волі лёсу і жыццёвых абставін апынуліся далёка ад роднага краю, а вось сустракацца, гутарыць з імі не даводзілася ніколі...

Гляджу праз ілюмінатар на бясконцы блакітны небасхіл, заліты шчодрым жнівеньскім сонцам, прыслухоўваюся да бадзёрага голасу камандзіра карабля, што час ад часу гучыць з бартавых дынамікаў і паведамляе, дзе ў даны момант знаходзіцца наш самалёт, а думаецца ўсё пра адно і тое ж: «Эмігранты... Хто яны? Якія яны? Што прымусіла іх адрачыся ад роднай хаты і пайсці ў свет? Чым жывуць яны? Пра што мараць? Як адносяцца да нас?..»

Хутка бяжыць час. Здаецца, авіякампанія зрабіла ўсё, каб пасажыр як мага менш маркоціўся, сумаваў, каб не адчуваў ніякага дыскамфорту ад пералёту. Тут табе і музыка на любы густ, ад класікі да «металу», і кінафільмы, і свежы часопіс, і смачны абед...

Але вось загараецца табло: «Не курыць! Прышпіліць рамяні!» Дзевяць гадзін палёту, і тысячы кіламетраў паветранай трасы засталіся ззаду. У ілюмінатары замільгалі будынкі, рачулкі, пералескі, маленькія постаці людзей. Самалёт ідзе на пасадку...

У Нью-Йоркскім аэрапорце імя Джона Кенэдзі нас сустракаюць прадстаўнік савецкага пасольства Алег Дзьячэнка, галоўны рэдактар прагрэсіўнай рускамоўнай амерыканскай газеты «Русский голос» Павел Ветраў, намеснік старшыні камітэта гэтай жа газеты Іван Сідараў, актывіст Араў-парку Альберт Мехціеў.

Сяброўскія поціскі рук, шчырыя словы прывітання, і мы зноў у дарозе. Наш шлях ляжыць у Араў-парк.

Араў-парк... Гэты запаведны куточак на амерыканскай зямлі ведаюць тысячы нашых суайчыннікаў, для якіх ён стаў родным домам, дарагім сэрцу месцам, дзе неспакойная славянская душа заўсёды знойдзе радасць, спагаду і разуменне.

Араў-парк... Вельмі шкадую, што за час паездкі мне так і не ўдалося да канца высветліць этымалагічнае паходжанне гэтага словазлучэння. Слова «парк» у амерыканскай рэчаіснасці мае па сутнасці той жа сэнс, што і ў нас, і таму ніякіх тлумачэнняў не патрабуе, а вось значэнне «Араў» выклікае розныя меркаванні. Адны лічаць, што гэтае слова паходзіць ад англійскага «arrow»—страла, а некаторыя алеі парка сапраўды прамыя, нібы стрэлы. Існуе разам з тым думка, што «Араў» бярэ свае вытокі ад абрэвіятуры «АРРОВ» — «Американо-русское рабочее общество взаимопомощи»—прагрэсіўнай грамадскай арганізацыі нашых суайчыннікаў, якая была створана ў 1917-м і на працягу дзесяцігоддзяў адкрыта і паслядоўна выступала за справу міру, дружбы і супрацоўніцтва з Савецкім Саюзам. Пасля другой сусветнай вайны арганізацыя «АРРОВ» мела аддзелы амаль у 300 гарадах ЗША і налічвала ў сваіх радах больш 17 тысяч чалавек. У гэты перыяд сярод нашых суайчыннікаў, што жылі ў Нью-Йорку, а таксама ў гарадах суседніх штатаў зарадзілася думка-мроя, каб набыць для адпачынку «якую-небудзь грамадскую ферму». Менавіта «ферму»: толькі ў такім накірунку маглі разважаць людзі, якія выйшлі з гушчы народа, людзі ад сахі, ад зямлі-карміцелькі — учарашнія сялянскія сыны і дочкі Беларусі, Расіі, Украіны.

Была створана спецыяльная камісія, якой даручалася падшукаць зручнае месца за горадам, дзе нашы суайчыннікі маглі б збірацца разам, абмяркоўваць свае праблемы, адпачываць сем'ямі і г. д. Камісія разбілася на групы і даволі доўгі час правяла ў раз'ездах, пакуль, нарэшце, не спыніла свой выбар на маляўнічай мясціне паміж гарадамі Таксіда і Манро (графства Орэндж, штат Нью-Йорк), якая сёння мае назву Араў-парк.

1 мая 1948 года ў газеце «Русский голос» з'явілася раднаснае паведамленне: «Ферма куплена». Сярод тых, хто браў найбольш актыўны ўдзел у стварэнні Араў-парку, былі Калешка, Бойка, Гайдук, Дзераўнюк, Леўчанка, Зулька, Яфімчык, Пілюцік. Менавіта гэтыя людзі былі абраны ў склад дырэктарата першых гадоў Араў-парку. На вялікі жаль, сёння шмат каго з гэтых энтузіястаў ужо няма сярод жывых.

4 ліпеня 1948 года, падчас летняга агульнаамерыканскага свята—Дня незалежнасці, адбылося афіцыйнае адкрыццё Араў-парку. Тады ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел больш як 4 тысячы чалавек. Але ўсе рэкорды пабіла чарговае вялікае свята—Дзень працы ў верасні 1948 года, калі з усіх канцоў Злучаных Штатаў у Араў-парк з'ехалася больш 15 тысяч чалавек. Госці прыбылі на 52 аўтобусах, а шырокая паляна была поўнасцю застаўлена аўтамабілямі, якіх хтосьці налічыў больш за 3 тысячы. З гэтага часу і пачынаецца вялікае паўнакроўнае жыццё Араў-парку, асноўнай гуманістычнай задачай якога было беражлівае стаўленне да захавання мовы, культуры і традыцый пакінутай Радзімы-маці...

Ад Нью-Йорка да Араў-парку недалёка, усяго 40 міль, і праз нейкую гадзіну наш аўтамабіль пад'ехаў да знаёмай па паштоўках брамы з надпісам: «Араў-парк». Машына скіроўвае на цэнтральную алею і пад'язджае да галоўнага будынк[illegible]рку. Створаны ў стылі іспанскага палаца гэты дом калісьці належаў аднаму амерыканцу нямецкага паходжання. Фундамент будынка—суцэльная гранітная скала. Усе будаўнічыя і дэкаратыўныя матэрыялы ў свой час былі прывезены з Паўднёвай Амерыкі і Еўропы. Рабілі дом, відаць, добрыя майстры сваёй справы. І хоць гаспадар-мільянер выкарыстоўваў, як нам казалі, танную рабочую сілу, будоўля абышлася яму 128 тысяч долараў. Сёння, вядома, стварэнне такога будынка каштавала б у шмат разоў даражэй. Калісьці ў доме было 13 пакояў, цяпер іх у 2 разы больш.

Адчыняюцца шырокія старасвецкія дзверы са званочкам, і насустрач нам выходзіць гаспадыня Араў-парку Марыя Сімак, ці, як яе тут усе любоўна называюць, Маня. Ужо шмат гадоў гэтая сімпатычная прыветлівая жанчына з'яўляецца старшынёй савета дырэктароў Араў-парку. Шчыра, памацярынску вітае нас старшыня камітэта газеты «Русский голос» Вера Гетман. Поруч з ёю стаіць з прыязнай усмешкай на твары яе верны спадарожнік жыцця, памочнік і дарадчык Мікалай. Завязваецца нязмушаная, адкрытая гаворка. Нашых гасцінных гаспадароў цікавіць усё: і надвор'е ў Маскве, і навіны кіно, тэатра, літаратуры, і, вядома ж, наша перабудова...

Тым часам ужо добра сцямнела. І як ні хацелася мне пайсці пакланіцца постаці нашага Купалы, давялося чакаць заўтрашняй раніцы.

Разам з Віктарам Скарабагатавым ідзём па прамой, як страла, алеі. Вось справа ад нас адкрываецца прасторная пляцоўка. Падыходзім бліжэй і заміраем ва ўзрушаным маўчанні.

**Леанід КАЗЫРА.**

**(Працяг будзе).**

---

**АБ ГІСТОРЫІ ВІЦЕБШЧЫНЫ І ЯЕ СЛАВУТАСЦЯХ**

# ПАЧАТАК «МУЗЕЙНАГА БУМУ?»

Гэтае пытанне міжволі ўзнікае пасля знаёмства з задуманай у Віцебску праграмай развіцця музейнай справы — вельмі вялікай, насычанай, цікавай. Ажыццявіць яе будзе няпроста: запатрабуюцца і даволі вялікія грашовыя сродкі, і кваліфікаваныя кадры, і дапамога жыхароў гарадоў і вёсак вобласці.

Зрэшты, цяжкасці тут нікога не палохаюць: вельмі ўжо хочацца віцябчанам, Віцебскаму абласному ўпраўленню культуры, творчай інтэлігенцыі скончыць з тым становішчам спраў, што назіраецца сёння. Як ні дзіўна і ні сорамна, але ў такім буйным горадзе, як Віцебск, сёння няма ніводнага дзяржаўнага музея. Праўда, адзін фармальна існуе — краязнаўчы. І экспанаты ў яго фондах, гавораць, багатыя і разнастайныя. Вось толькі захоўваюцца занадта «беражліва» — пад замком, паколькі ўжо гадоў восем будынак музея на рамонце. Нарэшце, гэтая сумная сітуацыя пачынае выпраўляцца. Ва ўсякім выпадку, у новай выставачнай зале, адкрытай гэтым летам, ужо экспануюцца тыя-сія матэрыялы з фондаў краязнаўчага музея. А ў Здраўневе завяршаецца будаўніцтва музея Ільі Рэпіна. У цэлым жа ў бліжэйшыя дзесяць гадоў толькі ў Віцебску будзе створана не менш 16 розных музеяў.

Сярод іх будуць, напрыклад, музей нумізматыкі, гісторыі горадабудаўніцтва, літаратурны музей і музей, прысвечаны заснавальнікам віцебскай мастацкай школы — К. Малевічу, М. Пэну, М. Шагалу, Дом народных рамёстваў... Адкрыюцца і даволі незвычайныя музеі. Так, у экспазіцыях «Віцебскай модніцы» збяруць упрыгажэнні, што насілі жанчыны Віцебшчыны і ў далёкія часіны, і параўнаўча нядаўна. А за 12 кіламетраў ад горада мяркуецца ўзвесці цэлы комплекс — музей этнаграфіі і фальклору з вялікім паркам, дзе будуць наладжвацца народныя гулянні, прадстаўленні, кірмашы.

Дарэчы, парк пры гэтым музеі не будзе адзіным. І ў самім Віцебску, і ў вобласці захавалася нямала цікавых сквераў, садоў, паркаў. Цяпер, праўда, многія з іх сапраўды ў запушчаным стане, але для адраджэння распрацавана спецыяльная праграма, пасля ажыццяўлення якой адкрыецца 38 паркаў.

Яшчэ немалаважная дэталь: па задумах, пры кожным музеі будуць музычныя і мастацкія гасціныя, дзе плануецца праводзіць сустрэчы з музыкантамі, паэтамі, мастакамі. Такім чынам, музеі стануць своеасаблівымі невялікімі Дамамі культуры.

Не застануцца ранейшымі і музеі, якія працуюць на грамадскіх пачатках. Іх цяпер каля 200 — у школах, калгасах, на прамысловых прадпрыемствах. І за рэдкім выключэннем усе яны паміж сабой вельмі падобныя. З часам кожны набудзе сваё аблічча, экспазіцыі ў асноўным будуць расказваць менавіта аб мясцовай гісторыі і славутасцях.

Прадугледжваецца і вялікая навуковая праца, якую будуць весці работнікі спецыяльна створаных аддзелаў. Дзейнасць музеяў стане больш мэтанакіраванай, іх матэрыялы не будуць паўтараць адзін аднаго, як здараецца пакуль, а дапаўняць.

Уся гэтая «музейная праграма», натуральна, распрацоўвалася не на пустым месцы: былі вывучаны «плюсы» і «мінусы» многіх музеяў, а таксама вопыт іншых гарадоў, такіх, як Ноўгарад, дзе пабывала дэлегацыя віцябчан. І хоць ужо намечаны канкрэтныя тэрміны стварэння шэрагу музеяў, ёсць канкрэтныя выканаўцы і знойдзены сродкі, ва ўпраўленні культуры лічаць: праграма можа падвяргацца карэкціроўцы і ўдакладненням. Прычым гатовы ўлічыць любую цікавую думку — для гэтага і апублікавалі праект праграмы ў абласной газеце. Водгукаў, праўда, пакуль менш, чым чакалася, але ўсе яны падтрымліваюць добрае і патрэбнае пачынанне: людзям падабаецца гэты «музейны бум».

**Наталля БУЛДЫК.**



**Сцяпан Карнееў, перад Вялікай Айчыннай старшыня Загальскага сельскага Савета на Міншчыне, пачынаў вайну радавым байцом, а скончыў камандзірам партызанскага атрада. Ордэны і медалі, якіх ён удастоены,—сведчанне яго адвагі і мужнасці. Калі ж родная Беларусь была вызвалена ад фашысцкай нечысці, Карнеева зноў выбралі дэпутатам і старшынёй сельсавета. Усе сілы аддаваў ён аднаўленню разбуранай акупантамі гаспадаркі, разам з калгаснікамі араў на сабе ў полі, будаваў хаты ўдовам і старым. Сцяпан Тамашавіч і цяпер жыве ў родным Загаллі, нягледзячы на свае семдзесят з лішнім, ён ініцыятыўны, па-ранейшу выконвае дэпутацкія абавязкі, выбраны старшынёй мясцовага Савета ветэранаў.**

**НА ЗДЫМКУ: С. КАРНЕЕЎ** за работай па гаспадарцы.

**Фота А. ІВАНОВА.**

## ГОТОВИТСЯ К ИЗДАНИЮ

# ИСТОРИЯ КОМИНТЕРНА: ВЗГЛЯД СОВЕТСКИХ УЧЕНЫХ

**Многие проблемы современного коммунистического движения своими корнями уходят в историю Коммунистического Интернационала (Коминтерна) — международной организации, действовавшей с 1919 по 1943 год. Долгие годы советские исследователи по разным причинам не могли создать полную и правдивую историю Коминтерна. Заведующий сектором Института марксизма-ленинизма при ЦК КПСС, доктор исторических наук Фридрих ФИРСОВ в беседе с корреспондентом Агентства печати Новости Альбертом СИРОТКИНЫМ рассказывает о состоянии этой проблематики сегодня.**

*— В начале будущего года будет отмечаться 70-летие создания Коминтерна, в истории которого еще достаточно «белых пятен». Собираются ли советские ученые уделить больше внимания исследованию истории этой организации в связи с позитивными переменами, происходящими в советском обществе?*

— Да. Более того, сегодня — это одно из тех направлений в исторической науке, которое будет весьма активно разрабатываться. Ведь это и важнейшая составная часть осмысливаемой сейчас заново истории нашей страны, КПСС, ее международной деятельности.

Советские историки и раньше уделяли внимание этой проблематике. Так, в 1969 году коллектив сотрудников нашего института подготовил с участием 15 видных деятелей Коминтерна книгу «Коммунистический Интернационал. Краткий исторический очерк». Мы были убеждены, что пишем полную правду. Но книга встретила активное противодействие со стороны ряда советских историков, представителей партийных кругов. Многие ее положения расценивались этими людьми как попытка подорвать позиции и престиж КПСС. Сильное давление, оказанное на авторов, негативно отразилось на книге, из которой выпал ряд существенных моментов.

Время застоя, среди прочего, означало и возврат к сталинской концепции истории коммунистического и рабочего движения. Исследования той поры сосредоточились на ленинском периоде деятельности Коминтерна, благо о том периоде можно было писать почти все. А о последующих периодах, связанных с догматизацией ленинских положений, с серьезными ошибками, допущенными Коминтерном, говорить честно и серьезно, опираясь на источники, нам просто не дали бы. Отсюда и серьезные пробелы в исследовании деятельности Коминтерна во второй половине 20-х годов, в 30-е годы и особенно в предвоенный и начальный периоды второй мировой войны.

*— Начало ли меняться такое положение?*

— Да, и очень серьезно. В новой ситуации перед нами поставлена задача создания новой книги по истории Коминтерна, где мы намерены показать его реальную роль в мировой истории, попытаемся дать и ответ на самые острые вопросы, по которым советские историки раньше не могли высказываться. Работа будет готовиться на основе большого документального материала архива Коминтерна.

В прошлом решающую роль при отборе документов к публикации играл, увы, политизированный, а не научный подход. Критерий разрешения на публикацию я бы определил так: ничего, что могло бы вызвать нежелательную реакцию.

Те публикации, которые все же появлялись в печати, включали в себя документы в основном позитивного содержания. Документы же негативного характера, показывавшие ошибки, неправильные установки, догматизм, не пускались в научный оборот или в них делались купюры. Но ведь из истории ничего и никого не выбросишь.

*— Существует ли проблема с доступом к архиву Коминтерна?*

— Когда в 1943 году Коминтерн был распущен, его архивы остались в СССР и в конце концов были помещены в Центральный партийный архив при нашем институте. Но материалы и документы Коминтерна являются архивом не КПСС, а всех партий, входивших в актив этой организации. Поэтому допуск к его документам в предшествующие годы всегда был ограничен, так как четкой договоренности об их использовании в момент роспуска этой организации и после между партиями не было достигнуто. В 1966 году было принято решение: поскольку этот архив — достояние Коминтерна, то пока не будут выработаны какие-то общие позиции, материалы будут находиться вне сферы научных исследований.

Недавно ЦК КПСС обратился ко всем входившим в Коминтерн партиям с предложением открыть архивы для широкого использования учеными, специалистами, партийными деятелями. Тут есть, правда, определенные ограничения. Например, документы, относящиеся к истории той или иной партии, могут предоставляться исследователям из других партий только с ее согласия. Но к основным фондам архива — материалам конгрессов, пленумов — после получения согласия других партий советские и зарубежные исследователи получат доступ.

Так что рамки пользования документами архива Коминтерна резко расширяются и будут определяться тем, как другие партии откликнутся на предложение Центрального Комитета КПСС.

Говоря о нынешних переменах, надо сказать и о том, что сейчас преодолеваются те схемы, которые были навязаны сталинским «Кратким курсом истории ВКП (б)». Мы уже совсем по-иному смотрим на идейно-политическую борьбу внутри КПСС в 20—30-х годах, стремимся выяснить альтернативность решений, осмыслить споры и дискуссии. Во всяком случае, позиции тех, кто противопоставил свою программу позиции большинства членов ЦК партии, для нас сегодня являются предметом исследования, анализа и размышлений, а не огульных обвинений в подрыве партии, существующего строя и т. п.

*— Помогает ли в этом плане деятельность созданной осенью прошлого года при Политбюро ЦК КПСС Комиссии по реабилитации?*

— Бесспорно. В течение долгого времени исследователи истории Коминтерна работали как бы со связанными руками, потому что многие имена представителей нашей партии в этой организации замалчивались. А они играли действительно важную роль в ее деятельности: Зиновьев, Радек, Бухарин, Мануильский, Пятницкий, Троцкий. В их деятельности было и позитивное, и негативное, и во всем этом надо сейчас спокойно, без ярлыков и предвзятости, разобраться.

Я считаю, что сегодня наш моральный долг, наша задача — написать серию работ по Коминтерну, чтобы показать во всей полноте и сложности и героизм, и трагичность истории коммунистического движения, ибо жизнь людей, павших в борьбе за идеалы, в которые они верили, достойна нашей памяти.

Мы наметили создать историю Коминтерна в трех томах. Что же касается написания совместной с учеными других стран работы по истории Коминтерна, то это вопрос сложный, потому что не во всем сегодня сходны позиции историков-коммунистов. Я думаю, что наиболее правильным в настоящих условиях будет работа историков каждой страны над собственными самостоятельными исследованиями, но на основе контактов и сотрудничества, обмена мнениями, не скованными догмами и предвзятостью.

Но это все в перспективе. А сейчас наша конкретная задача — подготовить книгу «Краткая история Коминтерна», которую мы планируем завершить в юбилейном для этой организации 1989 году.

(АПН).

## НОВОЕ В ПОЛИТИЧЕСКОЙ ЖИЗНИ СТРАНЫ

# КАК УЗАКОНИТЬ «НЕФОРМАЛОВ»

ОДНИМ из наиболее заметных новых явлений в политической жизни СССР в последние годы стало возникновение самодеятельных общественно - политических организаций типа клубов. Такие организации, рождающиеся, как правило, вне формальных структур, стали именоваться неформальными, а их члены — «неформалами». Этот полустихийный процесс, обходящийся без руководства сверху, а подчас и преодолевающий сопротивление со стороны консервативных элементов в системе власти, в Эстонии, например, привел к созданию «Народного фронта», который уже признан и поддержан республиканской партийной организацией. В ряде мест дело идет к тому же, то есть к признанию «неформалов» формальными структурами. Так они обретают свою законную «экологическую нишу», свое место в общественно-политической системе страны.

Правда, весеннее половодье демократизации не обошлось и без наносов — в общем, естественной, не вызывающей удивления активизации антисоциалистических элементов. Или, скажем помягче, несоциалистических. В отличие от подавляющего большинства новых организаций, имеющих твердую социалистическую ориентацию, эти «неформалы» «портят пейзаж», но не делают погоды и не имеют, на мой взгляд, сколько-нибудь серьезных перспектив. Иное дело — социалистические «неформалы». Их движение при всех сопутствующих ему эксцессах, «детских болезнях», всплесках честолюбий носит серьезный характер и требует соответствующего отношения к нему. И, в частности, определения его правового положения.

Но что же такое все-таки «неформалы» — временная вспышка активности проснувшихся от спячки людей или же зарождение новой формы политической деятельности, естественной для демократически организованного социалистического общества, для строящегося на наших глазах и нашими руками демократического социализма? Думается, это именно новая форма политической деятельности, поскольку возникновение самодеятельного движения «неформалов» опирается не только на узко ситуационные, но и на глубинные корни.

Сначала о ситуационных корнях. Практически бесспорно, что они уходят в кризис доверия, переживаемый официальными структурами страны: на протяжении почти всего своего существования эти структуры насаждали в СССР не демократический, а авторитарно-бюрократический социализм, приведший со временем к разложению власти и общественному застою. А по таким счетам нужно, естественно, дорого платить.

Причем, официальные структуры не переродились, да и не могли переродиться (не на словах, а на деле) сразу же после провозглашения новым руководством СССР курса на перестройку. Они будут выходить из кризиса доверия и обретать действительный авторитет лишь по мере достижения реальных результатов, а потому должны мириться с тем, что политически активные и честные люди, в том числе и принадлежащие к самим этим структурам, но пока не находящие там выхода своей энергии, сами ищут и отстаивают собственную социальную позицию.

Теперь о корнях глубинных. Они заключаются в том, что в советской политической системе существует, на мой взгляд, определенный пробел, который как-то не замечался в условиях застоя, но стал отчетливо виден в период перестройки. Я имею в виду тот факт, что в СССР до сих пор нет массовых общественных формирований, объединяющих по широкому кругу социальных интересов тех людей, которые не являются членами Коммунистической партии и ее молодежного филиала — комсомола.

Конечно, большинству из этих людей какие-то новые общественные формирования попросту не нужны: полное преодоление политического отчуждения, а тем более вовлечение в активную политическую работу всех без исключения граждан — благонамеренная утопия. И тем не менее, такие люди существуют. Допустим, что сегодня в СССР их всего лишь 1—2 процента — это уже 2—4 миллиона человек. Существующие общественные организации — профсоюзы, кооперативные объединения, творческие союзы — их по каким-то причинам не устраивают, хотя бы потому, что действуют в своих рамках, определяемых интересами стоящих над ними социальных групп и слоев. Куда же тогда податься, если на политической карте общества пока нет «родственных» организаций? В условиях перестройки и демократизации такой выход есть: создать то, что доступно — организации типа клубов.

Какова может быть роль таких организаций? Уже сейчас ясно, что в своей совокупности они не могут претендовать на роль второй партии — «партии беспартийных». Не могут хотя бы потому, что в составе этих самодеятельных организаций сегодня немало членов КПСС и комсомольцев, что является естественным проявлением социалистического плюрализма мнений, который может и не найти выход в системе внутрипартийной демократии. Но объективно такие организации вполне способны выполнять некоторые функции «второй партии», критикуя одни политические установки и поддерживая другие.

В этой связи встает вопрос об организационном единстве «неформалов». Такие идеи уже существуют. Речь идет, в частности, о создании в СССР третьей — после партии и комсомола — массовой общественно-политической организации, которую можно было бы назвать, скажем, Демократическим союзом социалистического развития (а может быть, Народным фронтом в поддержку перестройки или Демократическим союзом обновления социализма). Не исключено и существование движения в виде ассоциаций, федераций республиканского и местного масштаба. Что предпочтительнее, естественно, должны решить сами «неформалы».

Мне лично кажется, что создание общесоюзной организации такого типа привлекательно тем, что она получила бы право законодательной инициативы в Верховном Совете СССР и вообще выход на высшие органы государственной власти и управления. Вместе с тем некоторые активисты этого нового демократического движения опасаются, что формирование такой организации с ее соответствующим аппаратом может привести к ее быстрой бюрократизации, сковать инициативу низовых звеньев.

Да, угроза эта реальна. Бюрократизм как управленческая болезнь действительно способен проникать во все поры общественного организма и подчинять его деятельность своим видам и интересам. Но, как гласит русская пословица, «волков бояться — в лес не ходить». Если уж на самом деле создавать такую общественную организацию, то нужно позаботиться о ее социальном здоровье, противобюрократическом иммунитете.

В выступлении на XIX Всесоюзной партийной конференции Михаил Сергеевич Горбачев, в частности, отметил: «В стране по сути дела формируется общенародное патриотическое движение поддержки линии партии на перестройку. Оно включает все силы, выступающие за оздоровление общества, коммунистов, комсомольцев, беспартийных, верующих, женщин, ветеранов, молодежь, представителей всех основных общественных организаций. Это движение отражает глубинные процессы современной общественно-политической жизни, укрепляет уверенность в успех дела перестройки».

Существенным элементом этого движения стали и «неформалы». Более того, они уже утвердились как постоянная «составляющая» политической жизни нашей страны.

**Борис КУРАШВИЛИ,**
**доктор юридических наук.**

ЦІ ПРЫПЫНІЛАСЯ ПЕРАБУДОВА Ў САВЕЦКАЙ КУЛЬТУРЫ?

# ЗВЕРНЕМСЯ ДА ФАКТАЎ

«Перабудова ў савецкім мастацтве прыпынена «зверху». Такі вывад зрабілі некаторыя заходнія назіральнікі. З іх пункту гледжання, «шлагбаум» перад памкненнямі савецкай мастацкай інтэлігенцыі ўзведзены ўжо на XIX партканферэнцыі, дзе крытыкаваліся сродкі масавай інфармацыі. Далейшыя ж падзеі, напрыклад, адмова выдаць кнігі А. Салжаніцына і цяжкасці з выданнем ці пастаноўкай на сцэне і ў кіно шэрагу іншых твораў успрымаюцца імі як «прыкметныя змяненні» палітыкі ў галіне мастацкай культуры.

Думаецца, падстаў для такіх паспешлівых заключэнняў няма. Больш таго, усё, што адбываецца цяпер у савецкім мастацтве, у савецкім культурным жыцці, сведчыць якраз аб адваротным.

На XIX партканферэнцыі сапраўды не ўсім дэлегатам прыйшліся да густу дзеянні прэсы і дзейнасць мастацкай інтэлігенцыі. Частка з іх даволі рэзка рэагавала на выступленне Р. Бакланава, галоўнага рэдактара часопіса «Знамя». Але ж вядома, што канферэнцыя ў выніковых дакументах, пацвердзіўшы ў самай рашучай форме недапушчальнасць дыктату і камандна - адміністрацыйнага стылю ў мастацтве, выказалася за расшырэнне свабоды творчасці і публічнасці.

Ці выконваюцца гэтыя рашэнні партканферэнцыі? Ці не засталіся яны на паперы? Звернемся да фактаў.

Літаратурныя часопісы працягваюць публікаваць творы А. Платонава, Б. Пастэрнака, В. Шаламава, У. Набокава, Я. Замяціна... Прысвячаюць свае старонкі творчасці В. Някрасава (ён пасмяротна аднаўлены ў Саюзе пісьменнікаў СССР), В. Вайновіча, І. Бродскага, Ю. Даніэля, якіх яшчэ параўнаўча нядаўна называлі «антысаветчыкамі» і «дысідэнтамі».

У папулярнай тэлевізійнай праграме выступае яшчэ зусім нядаўна апальны гісторык Р. Мядзведзеў. Каля дзесяці яго твораў рыхтуюцца да друку. Аўтар некалькіх артыкулаў у цэнтральнай прэсе—акадэмік А. Сахараў.

На экранах кіно і тэлебачання дэманструюцца мастацкія і дакументальныя фільмы аб злачынствах сталінізму, аб карупцыі, у тым ліку і ў верхніх эшалонах улады, расказваецца аб наркаманіі і прастытуцыі—тэмах, якія раней знаходзіліся пад забаронай.

У самых прэстыжных выставачных залах экспануюцца карціны і скульптуры мастакоў-авангардыстаў. Разам з рэалістамі яны ўдзельнічаюць і ў замежных аглядах. Па радыё і тэлебачанні гучыць музыка кампазітараў-мадэрністаў С. Губайдулінай, А. Шнітке, Э. Дзянісава. У мінулым пра іх гаварыць было не прынята, на іх творчасць накладвалася своеасаблівае табу.

Сёння цэнтральны штотыднёвік «Неделя» піша пра М. Растраповіча, друкуе заклік прафесара М. Гальдштэйна з ФРГ папулярызаваць творчасць гэтага выдатнага музыканта.

Цяпер пра выданне кніг А. Салжаніцына. Тут няма сакрэтаў і тайнаў. У ...ературной газете» змешч... справаздача аб дыскусіі ў Сакратарыяце Саюза пісьменнікаў СССР. Меркаванні тут падзяліліся. Некаторыя прамоўцы лічылі, што творы А. Салжаніцына трэба апублі...ваць, іншыя гаварылі, што погляды Салжаніцына несумяшчальныя з нашым ладам, ідэалогіяй, і, значыць, выдаваць яго не варта. Было прынята рашэнне: даручыць праўленню Саюза пісьменнікаў яшчэ раз разгледзець гэтае пытанне, а таксама абавязкова запрасіць дазвол на публікацыю самога аўтара.

Як бачым, пастаноўка пытання і яго вырашэнне вядуцца па дэмакратычных правілах. А гады тры назад падобная дыскусія магла б нарадзіцца толькі ва ўяўленні.

Нядаўна ўрад СССР адмяніў лімітаванне падпіскі на газеты і часопісы. 20 кастрычніка рашэннем Палітбюро ЦК КПСС дэзавуіруецца пастанова ЦК ВКП(б) ад 14 жніўня 1946 года «Аб часопісах «Звезда» і «Ленинград». Негатыўны ўплыў гэтага дакумента зведала ўсё савецкае мастацтва. Разгромная пастанова, якая нічога агульнага не мае з ленінскімі прынцыпамі кіраўніцтва культурай, прынятая па асабістаму ўказанню Сталіна, адвольна абвінавачвала выдатных літаратараў А. Ахматаву і М. Зошчанку ў «апалітычнасці» і «безыдэйнасці», паслужыўшы пачаткам чарговай кампаніі супраць творчай інтэлігенцыі.

Хоць гэтую пастанову адмяніла ўжо само жыццё, рашэнне Палітбюро ЦК КПСС—яшчэ адзін красамоўны прыклад, што сведчыць аб працягу прагрэсіўных пераўтварэнняў, іх незваротнасці.

Вядома, перабудова ў мастацтве—не рух па роўнай асфальтаванай дарозе. У яе ёсць свае ўплывовыя праціўнікі. Але спыніць яе яны не могуць. «Белыя плямы» працягваюць знікаць. «Забароненыя зоны» працягваюць звужвацца. Факты гавораць менавіта пра гэта.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**



**На кінастудыі «Беларусьфільм» ідуць здымкі фільма па сцэнарыю Міхаіла Шэлехава, у аснову якога пакладзена вядомая аповесць Васіля Быкава «Круглянскі мост». Ён расказвае аб цяжкіх буднях Вялікай Айчыннай вайны, аб яе салдатах. Новая стужка ўздымае маральныя праблемы. Асноўная ўвага сканцэнтравана на развіцці псіхалогіі герояў аповесці.**

**НА ЗДЫМКУ: (злева направа) рэжысёр-пастаноўшчык Аляксандр МАРОЗ, Даніла — акцёр Пётр САЛДАТАЎ, Брытвін — Уладзімір ГРЫЦЭЎСКІ, Маслакоў — Уладзімір БОБРЫКАЎ.**

**Фота У. ШУБЫ.**

*СПАДЧЫНА*

# *ШЛЯХІ ВЯДУЦЬ ПРАЗ СТРОЧЫЦУ*

Рэспубліканскі музей пад адкрытым небам будуецца ў мясцінах, якія з'яўляюцца не толькі помнікам прыроды (пойма вярхоўя Пцічы, рэчышча Менкі), але і гісторыі. Тут і курганныя могільнікі, гарадзішча на Менцы, вёска Строчыца. Гістарычны прэстыж курганоў і гарадзішча зразумелы. Ці не таму так доўга ставіліся да Строчыцы абыякава, што яна была нявывучанай: без мінулага, а значыць і без будучыні.

Аднак некалькі гадоў назад у вёсцы быў знойдзены манетны скарб XVII—XVIII стагоддзяў. Пра астатняе паведамілі дакументы архіва.

Аб старадаўнасці вёскі гаворыць назва патранамічнага паходжання (ад імя Строчыц). Менавіта ад гэтага кораня паходзяць назвы вёскі і ракі Страча, што ў Астравецкім раёне. У XVIII стагоддзі Строчыца належала панам Іваніцкім з суседняга маёнтка Воўчкавічы. У пачатку XIX стагоддзя ў Строчыцы лёс прывёў Івана Чачота (ажаніўся з уладальніцай Антанінай Іваніцкай). Ён быў настаўнікам мінскай гімназіі, паходзіў з вядомага роду Чачотаў (з яго выйшаў і філолаг-фалькларыст Ян Чачот). Іх продак, Васіль Данілавіч за страчаны маёнтак у С...нскім ваяводстве атрым... ад Сігізмунда Аўгуста ўладанне пад Слонімам. Яго нашчадкі тут жылі пры Сігізмундзе III і Уладзіславе IV. Хутка яны падзялілі спадчыннае ўладанне і частка іх перасялілася на Навагр...чыну. У XIX стагоддзі ...чоты ў Мінскім павеце валодалі, у прыватнасці, маёнткам Атцэда. Чачоты мелі герб: «...два месяцы няпоўныя... хрыбтамі адзін да другога звернутыя, усялякі з іх адным рогам угару, другім уніз звернуты, у чырвоным полі на шлеме пяць стравусавых пер'яў». Іван Чачот памёр, адпісаўшы на 12 двароў строчыцкіх сялян 1 200 рублёў серабром і 3 000 рублёў бедным вучням гімназіі. Аднак грошы маглі быць выплачаны толькі пасля смерці жонкі Антаніны Іваніцкай, якая пры жыцці павінна была атрымліваць працэнты. У 1835 годзе яна выходзіць замуж за пана Камінскага ў Ігуменскі павет і прадае строчыцкае ўладанне Феліцыяну Немаршанскаму.

У пачатку нашага стагоддзя Немаршанскія валодалі вядомым маёнткам Лошыца пад Мінскам, мелі ўладанні ў Барысаўскім павеце. Заснавальнік роду значыцца ў датаваным 1520 годам рэгістры «шляхтом, знаходзячымся за караля Уладзіслава Ягелы на вайне з крыжакамі». Герб уяўляў шчыт, падзелены вертыкальнай рыскай. «На правым баку — нічога няма. На левым — палова арла з галавою ў адзін бок звернутай, з крылом расцягнутым. У сярэдзіне над рыскай — каралеўская карона з крыжам». Відаць, такая геральдыка ўказвала на нейкае дачыненне да каралёў. Уладальнік Строчыцы Феліцыян паказаны ў радаслоўнай у сёмым калене. 22 чэрвеня 1840 года строчыцкі фальварак, вёска і засценак Паповічы былі прададзены за 13 тысяч рублёў Юліяну Таўтагерды-Држневічу. Новыя ўладальнікі таксама былі радавітымі. На іх гербе «...паміж дзвюма рыскамі з правага боку шчыта налева ідучымі тры камені ў чырвоным полі, на шлеме — тры стравусавыя пяры...» Згодна легендзе, герб гэты прывёз у Польшчу вандруючы рыцар «воін Мутэн». Ён адправіўся з Бургундыі праз Багемію служыць польскаму каралю Баляславу Крываустаму (памёр у 1138 годзе). У час Гарадзельскага сейма ў 1413 годзе гэты герб «на сябе і на сваю фамілію» прыняў «самапярвейшы літоўскі дваранін Мікалай Таўтыгерды і перанёс яго ў Літву». Яго нашчадак, ротмістр Сігізмунд Таўтыгерды-Држневіч валодаў маёнткам Чырвоны Бор на Навагрудчыне. Сын Сігізмунда Карл у першай палове XVIII стагоддзя служыў пры двары і меў двух сыноў — Казіміра і Уладзіслава. Апошні быў дваранінам ад казны, навагрудскім чашнікам, удзельнічаў з братам у вайне супраць Сапегаў, быў паранены. Лёс Казіміра невядомы, а Уладзіслаў меў трох сыноў — Сігізмунда, Івана і Казіміра, якім пасля продажу ў 1706 годзе маёнтка Чырвоны Бор «з выпадку даўгоў і страт, у ваенны час панесеных», пакінуў толькі грошы. Лёс Сігізмунда невядомы. Казімір памёр бяздзетным, а Іван выслужыў чын ротмістра ў гусарскім палку, меў маёнтак на Браслаўшчыне,

ТАПОНІМЫ—БЯСЦЭННЫЯ ПОМНІКІ ВУСНАЙ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

# ЧАМУ ТАКАЯ НАЗВА

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 49, 50).**

Элемент -іч спачатку служыў для абазначэння годнасці або радавой сувязі, затым—для абазначэння сына па бацькоўскай лініі. Так, патомкі Бабра, Азарыя, Даўманта называліся адпаведна Бабровічы, Азарычы, Даўмантавічы. Калектывы родзічаў, або патраніміі (ад грэчаскіх слоў «патэр», «патрос» — бацька і «онома»—імя—найменне па продках бацькоўскай лініі) складаліся ва ўмовах патрыярхальна-радавога ладу, але ў перажытачных формах захоўваліся і ў шэрагу наступных фармацый. Яны сумесна валодалі зямлёй, разам сяліліся. Патранімічныя гнёзды ўяўлялі сабой групу пасёлкаў вялікіх і малых сем'яў, якія ўзнікалі ў выніку разрастання і дзялення адной патрыярхальнай сямейнай абшчыны. Такі сямейнарадавы комплекс у той ці іншай форме захоўваў гаспадарчае, грамадскае і ідэалагічнае адзінства і меў агульную назву паводле асабовага імя пачынальніка рода. Патранімічны характар мелі многія беларускія абшчынныя сёлы і дворышчы нават ў XVI стагоддзі. У старабеларускіх помніках захаваліся звесткі, якія прасвятляюць матывы прысваення назвы такім паселішчам. Так, у «Рэвізіі Кобрынскай эканоміі» паведамляецца, што ў сяле Ціхновічы жыве Манойла Ціхновіч, Ігнаты — два Ціхновічы, у сяле — Шубічы — Яцута Шубіч, Пац Шубіч, Лук'ян Шубіч, у сяле Сазановічы — Андрэй Сазановіч, Хвед Сазановіч, Трухан Сазановіч, у сяле Аляхновічы — Сцяпан Аляхновіч, Мішко Аляхновіч. Ёсць пацвярджэнне таго, што патранімічныя паселішчы знаходзіліся ў калектыўным валоданні нашчадкаў пэўнай асобы. Напрыклад, дворышчам Несцяровіч валодалі Філіп, Васіль, Яцына, Нянадзец і Дзмітрый Несцяровічы, дворышчам Талачковіч — Рыгор, Ждан, Нянад Талачковічы. І сёння яшчэ нярэдка сустракаюцца вёскі, у назвах якіх паўтараюцца прозвішчы іх жыхароў. У вёсцы Качановічы жывуць людзі па прозвішчу Качановічы, у вёсцы Калауравічы—па прозвішчу Калауравічы.

Большасць беларускіх назваў на -ічы ўтворана ад стараславянскіх асабовых імён, імён-мянушак і прозвішчаў: Гарыдавічы, Добравічы, Калядзічы, Пухавічы, Раванічы, Радуцічы, Раўбічы, Свідзічы, Сейлавічы, Субоцічы, Судзевічы, Смалявічы, Сякерычы, Труханавічы, Чудзенічы. Сярод іх ёсць тапонімы старажытнарускага перыяду і храналагічна больш познія.

Немалую ролю ў станаўленні тапонімаў на -ічы адыгралі грэчаскія хрысціянскія імёны. Часцей за ўсё яны выступаюць у народным варыянце: Міхалевічы, Дашкавічы, Панюцічы, Якавічы, Якшыцы, Ярэмічы, Яцкавічы. Асобныя тапонімы на -ічы суадносяцца з уласнымі назвамі рэк або азёр. У такіх выпадках элемент -іч не мае патранамічнага значэння. У старажытнасці людзі, якія жылі на рацэ Суле, называліся сулічамі, на рацэ Баліі — балічамі, на рацэ Тонеж — танежычамі, на возеры Дуба — дубічамі. Назва жыхароў звычайна пераходзіла і на паселішча.

Многавяковы, бесперапынны працэс утварэння тапонімаў на -ічы ў беларускай этна-моўнай зоне сведчыць аб выключнай жывучасці ў беларусаў старажытнай сялянскай формы калектыўнага саўладання зямлёй.

Як бачым, тапонімы — не проста слоўныя знакі, арыенціры на мясцовасці. Гэта — важная, каштоўная частка нашай культурнай спадчыны. У геаграфічных назвах засталіся жыць у вяках многія старажытнарускія словы і асабовыя імёны эпохі Кіеўскай Русі, многія народныя словы і выразы, якія не трапілі ў кніжную і афіцыйную мовы старажытных перыядаў. Геаграфічныя назвы з'яўляюцца сведкамі гістарычных умоўтых эпох, калі яны ўзнікалі і фарміраваліся, своеасаблівымі гістарычнымі дакументамі або помнікамі. Таму берагчы і цаніць іх трэба так, як мы беражом і цэнім кожную нашу археалагічную знаходку.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА,**
**доктар філалагічных навук.**




**— Не пужайцеся, ён добры, — з гэтымі словамі наш экскурсавод узяў на рукі вялікага тыгравага пітона. Трохметровая змяя не кінулася нападаць або ўцякаць, а мірна ўладкавалася адпачываць на плячах свайго гаспадара.**

**Такую карціну мы назіралі ў Доме прыроды Мінскага гарадскога савета Рэспубліканскага таварыства аховы прыроды на выстаўцы аматарскіх тэрарыумаў. Наведвальнікі маглі ўбачыць тут рэдкіх змей, чарапах, насякомых, жаб, трытонаў — прадстаўнікоў фауны розных кантынентаў. Многія з экспанатаў занесены ў Чырвоную кнігу. Арганізавалі выстаўку мінскія аматары тэрарыумаў і члены гарадскога кааператыва «Нэсі». Калекцыянеры С. Прохарчык, В. Бібікаў, С. Іваноў прадаставілі рэдкія экспанаты, самі пабудавалі выставачнае абсталяванне і ахвотна выконваюць ролю экскурсаводаў.**



**З цікавасцю слухаюць наведвальнікі пра звычкі жыхароў лесу, пустыні, гор. Расказ экскурсавода час ад часу дапаўняецца напамінам пра тое, што ўсё менш застаецца на планеце тых ці іншых жывёлін. Неразумнае гаспадаранне чалавека — асушэнне балот, знішчэнне лясоў паставіла многія віды на мяжу знікнення. Таму асабліва актуальнае паведамленне экскурсавода, што ц[illegible] і вялікагаловы полаз, занес[illegible] ў міжнародную Чырвоную кнігу, нядаўна ўпершыню даў прыплод ва ўмовах тэрарыума. І гэта поспех мінскіх аматараў прыроды.**

**— Галоўная мэта выстаўкі — не толькі расказаць пра самых малавядомых прадстаўнікоў фауны, але і пераканаць, што ім тэрмінова патрэбна дапамога чалавека, — гаворыць мінскі калекцыянер урач С. Іваноў.**

**Я. ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: мінскі тэрарыуміст урач С. ІВАНОЎ; балотная чарапаха — малавядомы прадстаўнік беларускай фауны; многія жадаюць паглядзець выстаўку; ой, як цікава!**

**Фота аўтара.**





# ШЛЯХІ ВЯДУЦЬ ПРАЗ СТРОЧЫЦУ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 6, 7-й стар.).**

Каб стаць сапраўдным работнікам, патрэбна было выканаць пэўную норму, ці «ўрок гаспадарчых работ»: узараць адзін морг параваловымі дзвюма сохамі, забаранаваць два моргі парай коней, зжаць морг азімага ці яравога жыта тром-пяці жнеям; змалаціць азімага хлеба нявысушанага ў асеці пяць-дзесяць снапоў, а яравога адну капу; на працягу двух дзён высечы адну сажань дроў. Каб зарабіць грошы на пакупку солі ці жалеза, сяляне адпраўляліся на вываз дроў ці лесу на продаж у Мінск.

Рэвізскія сказкі Строчыцы за 1858 год. Яны паведамляюць, што ў 1856 годзе вёску наведала чума і многія памерлі.

Устаўная грамата маёнтка за 1862 год. З яе відаць, што засценак Паповічы (зараз вёска на захад ад Строчыцы) да 1835 года знаходзіўся ў арэндным трыманні дваран (па больш позніх дакументах, у Беймера і Каханоўскага), а затым аддадзены Фёдару Будаю за абавязак пільнаваць лес.

Карта строчыцкіх зямель складзена ў сакавіку 1866 года землямера Бароўскім. Тут і дар[illegible] з фальварка да вёскі, праз яе да моста цераз Пціч (і зараз на гэтым месцы ёсць мост) і далей у Новы Двор. Ля могілак скрыжаванне, дарогі на Гарадзішча і Воўчкавічы. П[illegible] калісьці быў карч[illegible] двор. Вёска паказана з аднабаковай забудовай, характэрнай для паселішчаў узбярэжнага тыпу.

У 1861 годзе адменена прыгоннае права. 10 кастрычніка 1864 года складаецца выкупны акт па строчыцкаму маёнтку. У ім, у прыватнасці, адзначаецца, што глеба на сялянскіх землях напаўсугліністая, напаўглееватая, тут застойваецца вада. Сярэдні ўраджай жыта і аўса 2,5—3 зерні. Адсутнасць сенакосаў і выганаў паніжала пагалоўе жывёлы, угноенасць палеткаў. Выкупная сума 1 720 рублёў была растэрмінавана на 49 гадоў. Сяляне засталіся ў залежнасці ад паноў яшчэ на паўстагоддзя.

Ці датычыліся Строчыцы сацыяльныя падзеі? Запрос Галоўнай выкупной установы пры Санкт-Пецярбургскай ашчаднай казне ад 10 кастрычніка 1866 года начальніку Мінскай губерні. У ім паведамляецца, што ў сенацкіх аб'явах 1863 года накладзена забарона на маёнтак Строчыца пана Држневіча за ўдзел у паўстанні 1863 года яго сына Аляксандра-Людаміра. Нарадзіўся ён у 1839 годзе, значыцца, удзельнічаў у паўстанні ва ўзросце 24 гадоў, служыў канцылярскім чыноўнікам мінскай палаты грамадзянскага суда.

Аб якіх-небудзь іншых важных падзеях у гісторыі вёскі дакументы нічога не паведамляюць. Доўга цягнецца цяжба аб спагнанні з маёнтка завешчаных Чачотам грошай. Нарэшце Сенат у Санкт-Пецярбургу прымае канчатковае рашэнне: маёнтак абавязаны выплаціць грошы.

У 1909 годзе Строчыцкі маёнтак дзеліцца паміж сынамі Юліяна Држневіча Уладзіславам і Казімірам. Строчыца з фальваркам застаецца за доктарам медыцыны Казімірам. З дакументаў відаць, што на пачатку XX стагоддзя фальварак уключаў тэрыторыю пад забудовай, сад, агарод (прыкладна па 2 дзесяціны). Млыноў, шкіпінарань, смалакурняў, цагельняў не было, г. зн. якая-небудзь вытворчасць адсутнічала.

...Стаяць старыя дрэвы ўздоўж межаў колішняга фальварка. Побач сад, відаць, на месцы былога. Здалёк бачны на гары могілкі, дзе пахаваны Будаі, Савіцкія, чые нашчадкі жывуць у Строчыцы сёння. Зараз тут 60 двароў. На многіх дамах узоры традыцыйнай разьбы. Захаваліся і гістарычныя дарогі. Яны звязваюць сучаснасць з імем Чачотаў, з Лошыцай, з падзеямі 1863 года, працягваюць гістарычны шлях, на пачатку якога курганы і гарадзішча на Менцы. Стварэнне тут музея пад адкрытым небам дазволіць пазбегнуць штучнасці, калі мясцовыя прыродныя і гістарычныя каштоўнасці арганічна злучацца з экспазіцыяй перавезеных помнікаў у адзіным архітэктурна - этнаграфічным запаведніку. Строчыца пасля добраўпарадкавання і рэгенерацыі гістарычнай забудовы зможа захаваць сваю жыццяздольнасць, функцыянальна ўзаемадзейнічаць з музеем. На месцы фальварка, шляхам перавозу аналагічнай сядзібы-помніка, варта стварыць тэму паўстання 1863 года, гісторыі прыгоннай Беларусі. Адпаведны помнік мае сэнс перавезці і на месца колішняй карчмы. Гістарычная сапраўднасць помнікаў Строчыцы і яе наваколля створыць асяроддзе, у якім змогуць прыжыцца і помнікі, перавезеныя з іншых куткоў Беларусі.

**Аляксандр ЛАКАТКО,**
**кандыдат гістарычных навук.**




У адной восьмай розыгрышу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў жэрабя звяло мінскі СКА і югаслаўскую «Металапластыку» — гандбольныя каманды сусветнага класа. Першая гульня павінна была адбыцца ў беларускай сталіцы. Напярэдадні сустрэчы трэнер югаслаўскай каманды Петар Файфрыч у інтэрв'ю журналістам заявіў, што «Металапластыка», калі і прайграе, то не больш трох мячоў.

Але гэтыя прагнозы не спраўдзіліся. Мінчане перамаглі з лікам 30:21. Матч у адказ завяршыўся таксама перамогай беларускіх гандбалістаў — 25:22.

А беларускія гандбалісткі ў гэтыя дні ўдзельнічалі ў міжнародным турніры ў Польшчы. Мінскі БПІ перамог мясцовыя каманды «Сосніца», «Рух» і «Азот» і заняў першае месца.

На першынстве краіны па хакею пакуль перапынак. І таму мінскія дынамаўцы выязджалі на таварыскія сустрэчы ў Чэхаславакію. Яны двойчы абыгралі сакалоўскі «Банік» — 6:3 і 7:5.

Беларуская тэнісістка Наталля Зверава і масквічка Ларыса Саўчанка абаранялі гонар краіны на розыгрышы Кубка федэрацыі. Спаборніцтвы праходзілі ў Мельбурне.

Нашы спартсменкі ў фінале ўступілі камандзе Чэхаславакіі — 1:2. Але і другое месца зборнай СССР — вялікі поспех. Так высока нашы спартсменкі яшчэ ніколі не падымаліся.

На ўсесаюзных першынствах найбольшую цікавасць выклікалі спаборніцтвы па бадмінтону ў Мінску. Яны былі адным з першых этапаў падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў у Барселоне і чэмпіянатам краіны. З беларускіх спартсменаў вызначыўся Віталь Шмакаў. У яго «золата» ў змешанай катэгорыі і «серабро» ў адзіночным разрадзе.



НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1700.